 


# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 38 (917) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 23 ВЕРАСНЯ 1973 г. ЦАНА 60 гр.


Сустрэчы з землякамі

# АЛЯКСАНДР ЯРЫМОВІЧ

— Вы, — звяртаюся да таварыша Аляксандра Ярымовіча, — былі ў самы цяжкі для народнай улады ў Польшчы час, менавіта ў гадах 1946—1948, I сакратаром Павятовага камітэта Польскай рабочай партыі ў Бельску Падляшскім. Ці не захацелі б сказаць некалькі слоў нашым чытачам аб найбольш істотных праблемах гэтага перыяду?

— Гэта мая праца не была выпадковасцю. З рабочым рухам я быў звязаны, можна сказаць, ад дзіцячых год. Нарадзіўся і выхаваўся я ў сям'і рабочага, якая актыўна ўдзельнічала ў рэвалюцыйным руху. Сам я распачаў працу малалеткам як чорнарабочы ў роднай маёй мясцовасці — Орлі, на фабрыцы кафлі, уладальнікам якой быў Вайнштайн.

Не маючы доступу да стацыянарнай школы, я вучыўся ўсё ж такі — вучыўся карэспандэнцыйна. Атэстат сталасці змог атрымаць аднак толькі пасля вайны. У 30-ыя гады шмат часу аднімала грамадская праца. У 1932 г. арганізавалі мы ў Орлі Таварыства рабочага універсітэта (ТУР). Хоць я сам тады яшчэ не быў членам партыі, утрымоўваў аднак сувязь з таварышамі з КПЗБ, якія па даручэнню партыі ўвайшлі ў састаў праўлення аддзела той арганізацыі.



У гадах 1932—1939 я ніраз уваходзіў у састаў забастовачных камітэтаў. Даўжэйшы час, аж да верасня 1939 года, быў я ў Орлі сакратаром праўлення аддзела Прафсаюза рабочых будаўнічай, дрэваапрацоўчай, керамічнай прамысловасці і сумежных прафесій у Польшчы. У студзені 1939 года ўдзельнічаў, як дэлегат, у працы II краёвага з'езду гэтага нашага класавага прафсаюза.

— А як склаўся Ваш лёс пасля верасня 1939 года?

— У верасні 1939 года Беласточчына ўвайшла, як вядома, у састаў БССР. Ад таго моманту працаваў я на розных адміністрацыйных і грамадскіх пастах у савецкіх уладах Бельскага раёна, працаваў аж да часу вераломнага нападзення гітлераўскай Германіі на Савецкі Саюз.

— Ці пачатак вайны быў для вас нечаканасцю?

— Не! Па многіх прыкметах у тым раёне мы заўважылі, што вайна вось-вось успыхне і таму ўжо праз гадзіну пасля бамбардзіроўкі 22 чэрвеня аэрадрома ў Бельску Падляшскім мы па рашэнню сакратара райкома тав. Дзмітрыя Малчанскага прыступілі да ліквідацыі дакументаў, якія датычыліся пераважна партыйнага і беспартыйнага актыву таго рэгіёна. Дзякуючы выкананню гэтага задання захавалі жыццё многія вартасныя людзі, якія ў гады акупацыі саставілі ядро руху супраціўлення на той тэрыторыі.

— А Ваш асабісты лёс у гэты час як склаўся?

— Спачатку я ўтрымоўваў сувязь з савецкімі афіцэрамі, якія ў віры вайны рассеяліся па акалічных вёсках. У 1943 годзе я наладзіў супрацоўніцтва з арганізаванымі ўжо фармальна атрадамі савецкіх партызан. З імі ўтрымоўваў сувязь найбольш праз тав. С. П. Дзікунова, які быў начальнікам штаба атрада імя Пархоменкі.

— А пасля вайны, да таго, як Вам даверылі пасаду I сакратара Павятовага камітэта ПАРП у Бельску Падляшскім?

(Працяг на стар. 4)

# Курпёўскае лазьбаванне



Дажынковае відовішча на стадыёне «Гвардыі» ў Беластоку. Гучыць голас: «Старосто, старосто, юзэ ідом...» («Стараста, стараста, ужо ідуць...»). Гэта сцэна з «Мёдабрання» (лазьбавання), абапертая на бортніцкіх звычаях курпёўскага рэгіёну. Уваходзіць вялікі вулей, побач хлопцы і дзяўчаты ў народных уборах нясуць кварты і збанкі з мёдам. Наблізіўшыся да ганаровай трыбуны, адзін з хлопцаў паведамляе гаспадару і старасце, што закончылася лазьбаванне. Хлопцы і дзяўчаты цалуюцца, а вясёлай спеўкай «Грайта, грацэ, бо я скацэ...» («Грайце, музыкі, бо я скачу...») распачынаюцца курпёўскія танцы.

Фрагмент курпёўскага відовішча.

Тэкст і фота **А. Карпюка**

## БГКТ хроніка

■ Сямяціцкі аддзел Беларускага таварыства прыняў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні дажынкавых урачыстасцей у гмінах Мілейчыцы і Нурэц.

■ На павятовых дажынках у Гайнаўцы падчас канцэрта выступілі харавы калектыў з вёскі Навасады і эстрадная група з Чыжоў.

■ Гмінныя ўлады ў Шымках (Беластоцкі павет) арганізавалі дажынкавую ўрачыстасць пры дапамозе членаў мясцовага гуртка БГКТ і актывістаў БГКТ з іншых вёсак гміны.

■ Гурток БГКТ у Гурным (Гайнаўка) у сваім клубе зрабіў дзве сценгазеты на тэмы: 1) Трыццатая гадавіна Войска Польскага і 2) Эканоміка Савецкай Беларусі.

■ Многія гурткі БГКТ на Гайнаўшчыне ў 100 працэнтах аплацілі членскія складчыны. У апошнім часе гэты статутовы абавязак выканалі ўсе члены БГКТ у Чыжах і Пасечніках Вялікіх.

■ Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку супольна з павятовым беластоцкім аддзелам БГКТ у памяшканні ГП зрабілі фотавыстаўку, прысвечаную Цэнтральным дажынкам у Беластоку і перадавым гаспадарам Беласточчыны.

■ 6 верасня гурток БГКТ у Васількове (каля Беластока) правёў сустрэчу са старшынёй Беластоцкага павятовага праўлення БГКТ Янкам Цялушэцкім, які па просьбе прысутных расказваў аб працы рэдакцыі „Нівы" і аб сваёй працы як журналіста гэтай газеты. На гэтае спатканне былі запрошаны таксама старшыня гуртка ЗБоВіД у Васількове Чэслаў Вольданскі, які расказваў аб трагічных днях верасня 1939 года. Быў ён у той час салдатам польскай арміі.

■ 10 верасня адбылося пасяджэнне прэзідыума праўлення беластоцкага павятовага аддзела БГКТ, які 1) абмеркаваў і прыняў справаздачу аб выкананні плана працы ў першым паўгоддзі, 2) зацвердзіў планы працы прэзідыума і аддзела да канца бягучага года, у якім, між іншым, прадбачана шмат мерапрыемстваў з нагоды 30-ай гадавіны Войска Польскага, 3) даў ацэнку арганізатарскай працы аддзела ў Беластоцкім павеце ў сувязі з Днямі Савецкай Беларусі ў Польшчы. Пры абмяркоўванні гэтага пытання многа ўвагі было ўдзелена добра арганізаванаму 1 ліпеня беларускаму народнаму фэстыну ў Рыбаках.

■ У канцы верасня распачнецца справаздачная кампанія ў гуртках БГКТ. На сходах будзе абмяркоўвацца двухгадовая дзейнасць і далейшыя напрамкі культурна-асветнай працы гурткоў. Там, дзе гэта будзе неабходна, будуць выбраны новыя праўленні гурткоў. У сходах прымуць удзел актывісты і штатныя працаўнікі праўленняў аддзелаў і Галоўнага праўлення БГКТ. (мх)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"


Пра Веру Харужую ● Пра Нацыянальны фонд аховы здароўя ● Пра сельскагаспадарчую выстаўку ● Пра тых, што абаранялі Беласточчыну ● Ліст з Задрыпанкі ● Экстра... ● З эпісталярнай спадчыны Сыракомлі ● Асеннія касцюмы ● Весткі з Паўночнага Вострава, Сухавольцаў, Дубічаў Царкоўных, Цялушкаў, Татараўцаў, Грыгораўцаў і Бельска ● Песня „Cztery pory roku".


# СПАБОРНІЦТВА Ў ДЫДАКТЫЦЫ

Пачатковая школа № 3 у Бельску Падляшскім ужо даўно перайшла на кабінетную сістэму навучання. Кожны прадмет выкладаецца ў адпаведным класным памяшканні, у якім знаходзяцца патрэбныя навуковыя дапаможнікі.

Як кожная сістэма, так і гэта вымагае няспыннага ўдасканальвання. Справа разглядалася на пасяджэнні педагагічнай рады школы перад пачаткам мінулага навучальнага года, калі абмяркоўвался дыдактычна-выхаваўчы план працы. Робяць гэта ўсе школы і навучальныя ўстановы. Аднак у Бельску пастанавілі гэта зрабіць інакш. Каб павысіць якасць дыдактычнай працы, быў аб'яўлены ўнутрышкольны конкурс на найлепшы прадметны кабінет.

Гэты пачын дырэкцыі школы, пацверджаны педагагічнай радай, з задавальненнем быў прыняты асветнымі ўладамі і гарадской радай, якая непасрэдна фінансуе школу. Была створана конкурсная камісія, у склад якой увайшлі прадстаўнікі аддзела асветы, прадметныя візітатары, прадстаўнік прафсаюзаў арганізацыі і гарадской рады — усе з па-за школы. Аддзел асветы і гарадская рада на ўзнагароды для найлепшых кабінетаў прызнала 20 тысяч злотых, якія будуць выкарыстаны школай на дадатковае папаўненне навуковымі дапаможнікамі.

Да конкурсу прыступілі 4 кабінеты і 5 класаў-кабінетаў. Камісія, ацэньваючы конкурс, прымала пад увагу візуальны бок кабінетных памяшканняў, эстэтыку, магчымасць выкарыстання навуковых дапаможнікаў, іх дагляд, а таксама працу паасобных апекуноў пры абсталяванні кабінетаў у часе конкурсу.

Камісія пад старшынством магістра Сцяпана Трафімюка, намесніка школьнага інспектара, прызнала дзве ўзнагароды: біялагічнаму

(Працяг на стар. 4)

 

 

# ◇ Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі

 СВЕТ  БССР  ПОЛЬШЧА  ВАЯВОДСТВА

## СВЕТ

### ВАЕННЫ МЯЦЕЖ У ЧЫЛІ

Камандаванне трох родаў чылійскіх узброеных сіл і паліцыі зрабіла 11 верасня дзяржаўны пераварот, кладучы канец многагадовай традыцыі легалізму і законнасці, якой славілася Чылі на лацінаамерыканскім кантыненце. Чалавек, які хацеў увесці сваю краіну на дарогу сацыялізму, захоўваючы да канца пашану да гэтых традыцый, адышоў. Прэзідэнт Сальвадор Альендэ загінуў. Апошнія словы прамовы С. Альендэ, якую ён меў раніцай 11 верасня па радыё з прэзідэнцкага палаца, на момант да таго, як ваенныя замахоўцы акружылі палац, гучэлі: „Пацвярджаю сваё рашэнне ўстаяць нават за цану майго ўласнага жыцця, так, каб сталася гэта ўрокам для тых, хто прымае ўдзел у гэтым ганебным здарэнні, для тых, на чыім баку толькі сіла, але не слушнасць". Гэта быў адказ 65-гадовага прэзідэнта на ультыматум ваенных, якія дамагаліся, каб уступіў з паста.

### ПАЛІТЫЧНЫ РЭАЛІЗМ

14 верасня ў сталіцы Лаоса Вент'ян падпісан дадатковы пратакол паміж урадам і Патрыятычным фронтам Лаоса ў справе міру ў гэтай індакітайскай краіне. Пагадненне акрэсліае ўмовы палітычнага ўрэгулявання сітуацыі.

Дакумент прадугледжвае, між іншым, стварэнне часовага ўрада нацыянальнага адзінства. На чале ўрада мае стаяць прэм'ер, прадстаўляючы нейтральныя сілы краіны. Прадстаўнікі ўрада Вент'ян маюць узначальваць міністэрствы асветы, мастацтва, спорту і моладзі, абароны і былых камбатантаў, унутраных спраў і грамадзянскага забеспячэння, фінансаў і здароўя. Патрыятычны фронт Лаоса возьме ў свае рукі міністэрства замежных спраў, грамадзянскіх работ і камунікацыі, гаспадаркі і планавання, інфармацыі, турызму і прапаганды. Міністрамі пошты і тэлекамунікацыі маюць быць прадстаўнікі нейтральных сіл.

### КАТАСТРОФЫ

У выніку катастроф, якія мелі месца ў паветры і на зямлі, заходнегерманскія ваенна-паветраныя сілы страцілі 160 звышгукавых рэактыўных знішчальнікаў і знішчальнікаў бамбардзіроўшчыкаў „старфайтэр", пастаўленых бундэсверу амерыканскімі авіяцыйнымі фірмамі. Пры гэтым загінула 55 заходнегерманскіх лётчыкаў. Агульныя страты ад катастроф са „старфайтэрамі" дасягаюць 1 мільярда марак.

### ЗА АГАРОДЖАЙ ПАРКАЎ

Урадавы план Японіі па рэканструкцыі і ахове нацыянальных паркаў натыкнуўся на ўпартае супраціўленне землеўладальнікаў, якія адмаўляюцца прадаць участкі зямлі, якія належаць ім.

Прыватныя ўладанні складаюць цяпер 21 працэнт плошчы нацыянальных паркаў Японіі, а гэта каля 500 тысяч гектараў. У мінулым фінансавым годзе ўрад выдзеліў 6 мільярдаў іен за выкуп зямлі, але здолеў купіць толькі 20 гектараў. Тая ж сума прадугледжана на гэтыя мэты і бюджэтам сёлетняга года, аднак дагэтуль не куплена ніводнага квадратнага метра. Прычына простая — хуткі рост цэн на зямлю з кожным годам павялічвае капітал землеўладальнікаў.

(ак)

## БССР

### ВАДА З ВІЛІІ Ў МІНСК

Цяпер прадпрыемствы Мінска выкарыстоўваюць падземную ваду, якая з'яўляецца самай смачнай у Савецкім Саюзе. Праз некалькі год гораду спатрэбіцца 700 тысяч кубаметраў вады кожныя суткі. Без дапліву яе з іншых крыніц немагчыма было б развіваць прамысловасць сталіцы БССР. І таму рашылі „паіць" Мінск вадой з Віліі. Каб дабрацца ў горад, вада з гэтай ракі пяройдзе звыш 60 кіламетраў па каналу і ўзбярэцца на вышыню 70 метраў. Дзеля гэтага трэба пабудаваць 5 магутных помпавых станцый. У выніку рэалізацыі Вілейска-Мінскай воднай сістэмы будзе ўтворана штучнае мора, якое па велічыні ўступае толькі возеру Нарач. Гэтае ўнікальнае вадасховішча ўбярэ ў сябе 300 мільёнаў кубаметраў вады.

Першы поспех ужо за будаўнікамі. Восьмага верасня яны перакрылі раку Вілію. З гэтай нагоды адбыўся ўрачысты мітынг, на які прыбылі кіраўнікі кампартыі і ўрада Беларусі.

### РАТУЮЦЬ ВОЗЕРА

Ёсць на беларускім Палессі возера, якое даўней называлася Князь-возера, а цяпер — Чырвонае. Заўсёды яно славілася незвычайна багатымі ўловамі рыбы і разнастайнай дзічынай. А ў гады Вялікай Айчыннай вайны замерзшае Чырвонае возера ператварылася ў партызанскі аэрадром, на якім садзілі самыя цяжкія самалёты з Вялікай Зямлі.

У апошнія гады Чырвонае возера пачало раптоўна памяншацца. На ратунак паспяшалі меліяранты. Яны ўстанавілі прычыну і пачалі паглыбляць яго дно. Працуюць ужо другі год. Чырвонае возера будзе выратавана.

### ЛАЎРЭАТЫ КОНКУРСУ

У горадзе Шведце Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі ўжо традыцыйна кожны год наладжваецца міжнародны конкурс-выстаўка дзіцячых малюнкаў пад дэвізам „Уздоўж нафтаправода „Дружба". У іх удзельнічаюць дзеці з Савецкага Саюза, ГДР, Балгарыі, Чэхаславакіі, Венгрыі і Польшчы.

Вялікага поспеху на гэтай выстаўцы дабіліся дзеці з Гомельскага палаца піянераў імя Леніна. У 1971 годзе ім было прысвоена трэцяе месца, а ў мінулым годзе заваявалі яны першае месца. Школьнікі Ігар Цішын, Іра Хавіна і Віця Фралоў удастоены дыпломаў.

### ФІЛЬМ ПРА ВЫЗВАЛЕННЕ БЕЛАРУСІ

На кінастудыі „Беларусьфільм" ідуць зараз здымкі двухсерыйнага шырокаэкраннага фільма „Полымя" па сцэнарыю Г. Бураўкіна, Ф. Конева і У. Халіпа. Ён прысвячаецца 30-годдзю вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў і раскажа аб гераізме партызан у гады Вялікай Айчыннай вайны.

### ВЫСТАЎКА ПРА Л. М. ТАЛСТОГА

Выстаўка-экспазіцыя перасоўнага музея Льва Мікалаевіча Талстога завітала ў Маладзечна. Шматлікія экспанаты знаёмяць з жыццём і літаратурнай дзейнасцю вялікага пісьменніка. Шырока прадстаўлены тут дакументы, фатаграфіі і серыя копій рукапісаў. Навуковыя супрацоўнікі музея з гэтай нагоды выступаюць з лекцыямі на прадпрыемствах і ў навучальных установах. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### ІНТЭРВ'Ю

У нядзелю, 15 верасня вечарам савецкая тэлевізія ў сваёй цэнтральнай праграме передала інтэрв'ю з І сакратаром ЦК ПАРП Э. Геркам. Прысвечана яно было апошняй крымскай нарадзе правадыроў камуністычных і рабочых партый сацыялістычных краін.

### МІТЫНГІ

З гневам і абурэннем польскае грамадства ўспрыняло паведамленне аб тым, што рэакцыйныя сілы ў Чылі з дапамогай ваеннага путча скінулі законны і ўсенародна выбраны ўрад С. Альендэ. Па ўсёй краіне на прадпрыемствах адбываюцца мітынгі, на якіх польскія працоўныя выказваюць сваю салідарнасць з мужнай барацьбой чылійскага народа, а таксама ўпэўненасць у тым, што гэта барацьба ў канчатковым выніку прывядзе да перамогі над рэакцыяй.

### НАРАДА

У Варшаве адбылася нарада намеснікаў міністраў замежнага гандлю краін — членаў СЭУ. Удзельнікі нарады абмеркавалі праблемы расшырэння гандлёвага тавараабароту і паглыблення эканамічнага супрацоўніцтва.

### „ДНІ ГАТОЎНАСЦІ"

Галоўная кватэра Саюза польскага гарцэрства аб'явіла „Дні гатоўнасці" для ўсіх інструктараў і звыш 2-мільённай масы другнаў і другаў. У рамках гэтай акцыі дружыны зухаў і гарцэраў выконваюць важныя заданні ў святкаванні XXX гадавіны Людовага Войска Польскага.

### СУСТРЭЧА

На польска-савецкай граніцы паблізу Бартошыц адбылася традыцыйная (сёмая) сустрэча дружбы моладзі Альштынскага ваяводства і Калінінградскай вобласці. Удзельнічала ў ёй каля 3 тысяч маладых перадавікоў у працы, навуцы і грамадскай дзейнасці.

### ЛІЦЭНЗІЯ

Цэнтр замежнага гандлю „Цэнтрозап" у Катавіцах падпісаў кантракт на продаж французскай фірме доменнай каруселъной печы. Прадукцыйнасць гэтай печы, сканструяванай польскімі спецыялістамі, у 3 разы вышэйшая ад дагэтуляшніх домен.

### ПЕРАМОГА

Вялікай перамогі дабіліся польскія барцы. На чэмпіянаце свету ў Тэгеране браты Юзэф і Казімеж Ліпені сталі чэмпіёнамі свету. Сярэбраныя медалі заваявалі Рышард Сверад, Ян Міхалік і Чэслаў Квяцінскі, а бронзавы — Анджэй Скшыдлеўскі.

### „ГУБАЛЬ"

З вялікім поспехам праходзіць дэманстрацыя новага фільма Б. Парэмбы „Губаль". У верасні быў гэта найбольш папулярны фільм на нашых экранах.

## ВАЯВОДСТВА

### СУСТРЭЧЫ

У ВК ПАРП адбылася сустрэча партыйна-грамадскага актыву ваяводства з вышэйшымі афіцэрамі Войска Польскага, якія прыехалі на Беласточчыну ў сувязі з пачаткам святкавання 30-годдзя Людовага Войска Польскага. І сакратар З. Куроўскі і сакратар М. Недзвецкі расказалі госцям аб дасягненнях нашага ваяводства і напрамках яго далейшага развіцця. Ад імя афіцэраў выступіў віцэ-міністр асветы і выхавання ген. дыв. З. Гушча. Ген. брыг. Р. Дзіпанаў, ген. брыг. В. Ягас і плк. Г. Адамовіч атрымалі ганаровыя адзнакі „Заслужаны для Беласточчыны".

Прыбыўшыя на Беласточчыну афіцэры пазнаёміліся з горадам, а потым адбыліся сустрэчы ў розных раёнах Беластока і ў паветах.

### АЛЕРТ ЗГП

У сувязі з пачаткам святкавання 30-годдзя ЛВП беластоцкія гарцэры ўдзельнічалі ў IX алерце ЗГП. 15 верасня ва ўсіх дружынах адбыліся зборы. 16 верасня гарцэры выконвалі спецыяльныя заданні, мэтай якіх было пашырэнне ведаў аб гісторыі Войска Польскага, папулярызаванне ідэі масавай абароннасці краіны і пазнаванне жыцця салдат у час міру. Беластоцкія гарцэры наведалі воінскую часць Варшаўскай ваеннай акругі, дзе для іх быў зроблены „дзень адкрытых казармаў". Вечарам у розных раёнах горада і ў паветах загарэліся гарцэрскія кастры, на якіх госцьмі гарцэраў былі ветэраны апошняй вайны.

### ІМЯ Т. КАСЦЮШКІ

Гайнаўскі драўнінна-механічны тэхнікум атрымаў імя Тадэуша Касцюшкі. На ўрачыстасць уручэння сцягу прыехалі І сакратар ВК ПАРП у Беластоку З. Куроўскі, віцэ-міністр асветы і выхавання ген. дыв. З. Гушча, старшыня ВК ФАН С. Кудла, сакратар ПВРН Г. Заэжцкі, куратар Беластоцкай школьнай акругі Э. Крынскі, сабраліся прадстаўнікі мясцовых улад, моладзь і насельніцтва Гайнаўкі.

Імя Т. Касцюшкі тэхнікум атрымаў за дасягненні ў выхаваўча-дыдактычнай працы напярэдадні свайго 50-годдзя і ў сувязі з 30-годдзем ЛВП.

### З'ЕЗД БІЯХІМІКАЎ

У Беластоку адбыўся XI з'езд Польскага таварыства біяхімікаў. Тэмай з'езду былі праблемы прымянення біяхіміі ў сельскай гаспадарцы і справы выкладання біяхіміі ў вышэйшых школах. У час з'езду адкрыта была выстаўка біяхімічнай апаратуры.

### ДЗЕНЬ ЭНЕРГЕТЫКА

15 верасня на ўрачыстым вечары ў тэатры імя А. Вянгеркі беластоцкія энергетыкі адзначылі сваё свята. За добрую працу шэраг энергетыкаў атрымалі высокія дзяржаўныя ўзнагароды. Прыпомнім хоць бы аддадзены на некалькі месяцаў раней тэрміну слаўны ўжо на ўсю Польшчу трэці кацёл для Беластоцкага энергетычнага прадпрыемства.

### ВЫСТАЎКІ

У клубе МПіК адкрыта выстаўка жывапісу і графікі Анны Карыбут-Дашкевіч, а ў фае Драматычнага тэатра імя А. Вянгеркі — выстаўка разьбы па дрэву А. Сакалоўскага. (яч)




**Niedziela 23.IX.**

7.25 Program dnia. 7.30 TV Kurs Rolniczy. 8.05 „Przypominamy, radzimy". 8.15 „Alarm przeciwpożarowy". 8.25 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 TELERANEK. 10.20 „Antena". 10.35 „Filmy moją pasją" („W starym kinie"). 11.30 „Oko w oko z dżunglą" („180.000 km przygód"). 12.00 Dziennik. 12.15 Niedzielny Koncert Promenadowy z Krakowa. 13.15 „Przemiany" 13.45 TELEWIZJA NAJMŁODSZYCH: J. Porazińska — „Gadające zwierciadełko". 14.20 Losowanie Totolotka. 14.35. „Interstudio". 15.05 „Piórkiem i węglem". 15.30 „Morskie opowieści" — program rozr. 16.05 Polski Film Telewizyjny: Premiera miesiąca — „Bolesław Szabelski". 16.35 „Tele—Echo". 17.30 Sportowy magazyn sprawozdawczy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Ubodzy krewni" — film fab. ang. („Kuzynka Bietka") odc. I. 21.00 PKF. 21.10 „Gwiazdy 7 stolic — głos ma Bukareszt". 22.20 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek 24.IX.**

12.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Mechanizacja Rolnictwa. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec" 17.30 „Echo stadionu". 17.55 TV Kurier Lubelski. 18.10 „Oferty". 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Letni Przegląd Teatru TV: M. Kuncewiczowa — „Cudzoziemka". 21.35 „Piosenka dla Ciebie". 22.35 Dziennik.

**Wtorek 25.IX.**

9.00 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — Sofokles „Antygona". 9.45 „Własną drogą" — film węg. 11.05 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — H. Ibsen — „Nora". 15.20 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 15.55 TV Technikum Rolnicze: Mechanizacja Rolnictwa. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.10 TV Kurier Mazowiecki. 18.30 „Mister eksportu — Takon 73". 19.15 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 FILMOTEKA ARCYDZIEŁ: „Obywatel Kane" — film fab. USA. 22.20 „Ex libris". 22.45 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Środa 26.IX.**

7.05 „Obywatel Kane" — film fab. USA. 9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Czym są metale". 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Siły i maszyny". 11.05 Dla szkół: (kl. VII—VIII) Wychowanie fizyczne — „Malarstwo" cz. I. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „O wolną i niepodległą". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 16.05 Program dnia. 16.10 „Informacje, Towary, Propozycje". 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Harcerski raport". 17.05 „Zawadiackie czastuszki" — film balet. TV Radz. 17.25 Bezpośrednia transmisja z meczu piłki nożnej Polska—Walia (eliminacje do Mistrzostw Świata. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik 20.15 „Sędzia z Olimpii" — film („Bonanza"). 21.05 „Świat i Polska". 21.45 „Artyści, których podziwiamy" — Piotr Paleczny. 22.30 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Czwartek 27.IX.**

10.00 „Sędzia z Olimpii' — film („Bonanza"). 10.30 Powtórzenie sprawozdania z eliminacyjnego meczu piłkarskiego o Mistrzostwo Świata Polska—Walia. 13.30 TV Kurs Informatyki: Cybernetyka — podstawy informatyki cz. II. 14.00 Matematyka w szkole: Różnica zbiorów. 15.20 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 15.55 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.45 PKF. 17.55 „Gramy o telewizor". 18.20 TV Kurier Mazowiecki. 18.40 Program reklamowy. 18.45 „Kwadrans akademicki". 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr Sensacji: P. Quentin — „To niemożliwe, kochanie" cz. I. 21.25 „Bez togi". 22.05 „Ekspres nr 35". 22.30 „Informacje-Towary-Propozycje". 22.50 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Piątek 28.IX.**

10.00 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — „Ukształtowanie powierzchni Polski". 10.30 „Panna z dziećmi" — film fab. czechosł. 12.00 Dla szkół (kl. VIII i I lic.) Przysposobienie obronne — „System obronny PRL". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora". 17.25 „Nie tylko dla pań". 17.50 „Rodzina Durtolów" — film franc. odc. II. 18.20 TV Kurier Warszawski. 18.40 Program reklamowy. 18.45 „Konsylium" cz. I. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Kwiaty z czarnych lat" cz. I. 20.45 „Panorama". 21.25 Teatr TV: M. Gorki — „Dziwacy". 22.35 „Konsylium" cz. II. 22.55 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Sobota 29.IX.**

10.00 „W cieniu dobrego drzewa" — film fab. USA. 12.00 Dla szkół: (kl. IV lic.) Biologia — „Komórki". 14.20 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 14.55 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 15.25 Program dnia. 15.30 Program I proponuje. 15.50 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.05 TV Informator Wydawniczy. 16.30 Dziennik. 16.40 TELEWIZJA MŁODYCH. 17.25 „Turystyka i wypoczynek". 17.55 „Poligrafia 73" — rep. z Miedzyn. Targów Konsumpcyjnych. 18.35 „Godzina Orfeusza". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „W cieniu dobrego drzewa" — film fab. USA. 21.55 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.20 Kabaret Olgi Lipińskiej: „Gallux show" — wieczór VII.




**Piątek, 21 września**

14.55 Program dnia. 15.00 Koncert. 17.30 Hokej. CSKA—SKA (Leningrad). 19.00 Czas. 19.30 c. d. zawodów hokejowych. 20.00 Spektakl teatralny.

**Sobota, 22 września**

7.00 Program dnia. 8.30 Śpiewa Makarow. 10.45 Przegląd międzynarodowy. 11.00 Film fab. 12.30 Tańczcie z nami („Cza-cza-cza"). 13.00 Filmy animowane. 15.00 W świecie zwierząt. 16.40 Koncert życzeń. 17.10 Film fab. „Kopernik" .Część I i II. 19.00 Czas. 19.30 Koncert. 20.45 Program sportowy.

**Niedziela, 23 września**

14.00 Hokej. „Chemik" (Woskriesiensk) — „Dynamo" (Moskwa). Tercja 2 i 3. 15.30 „Złota jesień" (festiwal). 16.10 Filmy animowane. 17.00 Klub filmowy. 18.00 Film fab. „Kopernik". Część III. 19.30 Koncert. 21.00 Program sportowy.



 

 

# БЛІЖЭЙ ДА НАВЕДВАЛЬНІКА

Ці народнае мастацтва можа выйсці з дастойных залаў музеяў, дзе чуваць толькі прыглушаны шэпт наведвальнікаў ды мяккі шолах фетравых тапачак па наваскаванай да люстранога бляску падлозе, і стаць неад'емнай часткай штодзённага жыцця сучаснага горада? Ці вырабы народных умельцаў могуць аказацца не то што даступнымі, але апынуцца проста „пад рукою" ў змучанага сучаснай урбанізацыяй, механізацыяй, матарызацыяй і безліччу іншых „...ацый" сучаснага чалавека, каб яго думкі і зрок не толькі адпачылі, захапляючыся харастом простых народных формаў і ўзораў, але і натхнілі да стварэння ў буднім побыце рэчаў прыгожых?

Беластоцкі акруговы музей спрабаваў даць адказ на гэтыя пытанні. У сучасным, з алюмінію і шкла павільёне на вуліцы Акадэміцкай у Беластоку абсталяваў ён сталую выстаўку „Народнае мастацтва Беласточчыны". На невялікай параўнальна плошчы экспануецца ў ім каля 200 вырабаў народных умельцаў з усіх паветаў Беластоцкага ваяводства.



*Куфэрак на «пры́данае» з Гайнаўшчыны.*



*Простая ў вырзе, але нечым заваражваючая сучасная народная разьба ў дрэве.*



*Дажынкавая «перапёлка» з Лапскага павету і калядная звязда з вёскі Валілы Беластоцкага павету.*

Побач з унікальнымі дзвюхасноўвавымі дыванамі з Сакольшчыны знаходзіцца кераміка з Кляшчэляў. Дзіцячыя драўляныя цацкі з Граеўскага, Манецкага і Сувальскага паветаў экспануюцца непадалёк рэгіянальных убораў курпяў, багатай сваімі ўзорамі мужчынскай і жаночай беларускай вопраткі з Бельскага і Гайнаўскага паветаў. Драўляны посуд (кубкі, лыжкі, чарпакі, ступкі) з Надбужжа стаіць пры вырабах з саломкі з Гайнаўшчыны і Бельшчыны. Велікодныя маляваныя яйкі з Ломжынскага павету, каравайныя „гускі" з Гайнаўскага, калаўрот і іншыя прылады да пражы з Бельскага і Сакольскага, калядныя звёзды, драўляныя фігуркі з батлеек, маскі да „казы" і іншых народных пастановак з розных рэгіёнаў Беласточчыны — усё гэта багацце выйшла са сховішча музеяў амаль што на вуліцу.

І яно ўвачавідкі пераконвае сотні наведвальнікаў аб незвычайнай знаходлівасці, мастацкім гусце і непаўторным майстэрстве народных творцаў. У роўнай ступені тых, што жылі ў мінулых эпохах, як і тых, якія ствараюць мастацкія каштоўнасці ў нашыя дні.

Любуешся жа гэтай чароўнай прыгажосцю, седзячы за сучасным столікам і п'ючы пахучы, з ліпавага квецця, чай, толькі што звараны афіцыянткай у мадэрн-экспрэсе. А ў меню гэтай арыгінальнай выстаўкі-чайной — цэлы набор чаяў: па-венску, спецыяльны, экспрэсавы, з мяты, святаянскага зелля... Да гэтага можна спрабаваць хлебны квас, паласавацца тортам, піражным, шакаладам, цукеркамі. А за шклянымі сценамі дыбяцца высотныя будынкі, равуць вуліцы і... ціха шапоча парк.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



*Старадаўні калаўротак з горада Беластока і плеценая з саломкі бочка з Бельшчыны.*



*У павільёне з алюмінію і шкла на вуліцы Акадэміцкай, якраз насупраць уваходу ў парк Медыцынскай акадэміі, абсталявана выстаўка «Народнае мастацтва Беласточчыны».*



*Пасцілкі з розных рэгіёнаў Беласточчыны.*

## У ГОСЦІ ДА СУСЕДЗЯЎ

# МЫ ЕДЗЕМ, ЕДЗЕМ, ЕДЗЕМ...

перон нумар тры. Людзей
Я валаку два чамаданы, жонка дзяцей. Пот ліецца стругою. Вось і — не пройдзеш. Кругом клункі ды сумкі. Хто на азёры ў Аўгустоў, а хто ў нашым кірунку.

Беласток — Вільнюс... Гэтага мы якраз шукалі. Паведамляюць, што першыя два вагоны едуць толькі ў Гродна — значыцца ў БССР. Туды і нам.

Натоўп кінуўся ў дзверы. Жонка за дзетак, дзеткі за татку, татка за чамаданы. Крэхчам, прэмся і ўлезці не можам. Сціск, піск і таўкатня. Адзін цераз другога.

Бедныя праваднікі вагонаў разгублена водзяць туды-сюды вачыма. Паспрабуй тут злічыць пасажыраў. Гэтым ужо не вытлумачыш, што культура прыходзіць з захаду.

А мы, як у той казцы: мамка за дзетак, дзеткі за татку, а татка за чамаданы, наперлі мацней ды разам з іншымі і ўлезлі.

Неразбярыха. Стаю на адной назе, ды і тая чужая. Вагон набіты бітком. Не прайсці, не пралезці. Хто сапе з натугі, а хто лае цэлы свет ды яшчэ ваколіцу.

Грук-стук: паднялася падножка, зачыніліся дзверы, праваднікі ўласнымі грудзьмі бароняць доступу ў вагонную крэпасць. Месц няма. Месц няма. Месц няма. Астаўшымся на пероне маюць дачапіць два дадатковыя вагоны.

Расшпіляю каўнер кашулі. Праваднiца „прымае каманду". Гэты багаж туды, а той сюды. Вы сядайце там, а вы сям. Не паспелі азірнуцца, а кругом ужо прасторна. Улажылі клункі. Кожны пасажыр на сваё месца. Выявілася нават магчымасць прыняць яшчэ дзесяць спадарожнікаў.

Усе паспускалі вочы. Саромяцца адзін другога, лічаць, здаецца, абарваныя гузікі, паціраюць намятыя бакі, патоптаныя ногі. Мы едзем, едзем, едзем... Праваднiца з халодным кампрэсам на лобе прылегла на хвілінку ў сваім купэ. Ачалавечаныя пасажыры прапануюць ёй наперабой парашкі ад болю галавы.

Усё раптам робіцца культурным. Стук-перастук — культурненька пастукваюць калёсы цягніка. „Добры дзень — да пабачэння", — культурна вітаюцца і развітваюцца польскія і савецкія пагранічнікі і таможнікі. Яны на дзіва вераць, пэўна, і ў культуру пасажыраў, бо багажа амаль не пераглядаюць.

— Нёман! Татачка, Нёман! — крычыць мой малодшы. Ага. Ён самы. Усе замітусіліся. Заскрыпела, зарыпела — прыпыніўся цягнік.

Мамка за дзетак, дзеткі за татку, татка за чамаданы — прые-е-е-е-халі ў Гродна.

**Ларс**

# Больш машын у сельгасгуртках

У Ляўкоўскай акрузе (Гайнаўскі павет) дзейнічаюць пяць сельскагаспадарчых гурткоў: у Ляўкове, Ляшуках, Міхнаўцы, Ахрымах і Плянце. Ужо пятнаццаты год аблягчаюць яны працу сотням сялян. Прыдалося б ім больш трактароў. Усяго толькі пяць штук іх мае сельгасгуртoк у Ляўкове. Сёлета ўсе сельскагаспадарчыя гурткі папоўнілі свае машынныя паркі: ляўкоўскі купіў чарговы абмалотачны агрэгат, дзве бульбакапалкі, касілку, глебагрызку і іншыя машыны, ляшуцкі — прас да саломы і конную сеназграбалку, ахрымаўскі — абмалотачны агрэгат, дзве збожжавыя сеялкі, дзве сеназграбалкі, а плянтаўскі — сеялку, млынок-„сьрутоўнік" і сеназграбалку. У суме чатыры сельгасгурткі купілі сельскагаспадарчых машын на 375 тысяч злотых. Зараз усе гурткі маюць машын на суму каля двух мільёнаў злотых. Некаторыя сельгасгурткі карыстаюць складаным механізаваным абсталяваннем да перапрацоўкі ільну на валакно, бетонамяшалкай і іншымі вельмі патрэбнымі на вёсцы сельскагаспадарчымі машынамі. (ця)




### ЛЮБАЯ МЯСЦІНА

Відаць, я ў гэтым не адзіны,
Відаць, што кожнага кране
На ўсё жыццё адна мясціна.
І ёсць такая і ў мяне.

За тое месца над ракою
Не знаю большае красы,
Яно заўжды, заўжды са мною,
Дзе б я ні быў, ва ўсе часы.

Туды ніякае дарожкі,
Ні нават сцежак лугавых —
Кусты ляшчыннiку, бярозкі,
Малы ядлоўчык паміж іх.

Я там вясновай раніцою
Сустрэчы першае чакаў,
Калі ж прыйшла, дык я пра тое
Пра што хацеў, і не сказаў.

Наогул анямелі словы,
Куды адвага ўся сплыла?..
Ды і яна, бы выпадкова,
Мяне на беразе знайшла.

Стаяла ціш, дзе мы сышліся,
І толькі чуў, узнёслы, я —
Дрыжэла песня жаўра ў высі,
А больш за ўсё — душа мая.

**Пятрусь Броўка**



 

# НЯСЛАЎНАЕ ТРЭЦЯЕ МЕСЦА

Прэзас павятовага суда ў Бельску Падляшскім пераглядае чарговыя папкі з пракурорскімі абвінаваўчымі актамі. Тыя, у якіх пракуроры Бельскага і Гайнаўскага паветаў (бельскі суд ахоплівае гэтыя два паветы) абвінавачваюць за нелегальную прадукцыю алкаголю, адкладае на бок. Актаў гэтых многа. Яшчэ больш іх у архівах і на разглядзе ў судзе.

У судзе хачу пазнаёміцца са справамі, якія датычаць „боек“ на вясковых забавах. Усё ж яны былі калісьці „неабходнымі пунктамі“ праграмы вясковых патанцовак. Прэзас Янкоўскі звяртае маю ўвагу іменна на акты абвінавачання за нелегальную прадукцыю алкаголю, самагонкі. „Бойкі на забавах, — гаворыць, — не з'яўляюцца асноўнай справай, хаця там-сям здараюцца. Праблемай з'яўляецца нелегальная прадукцыя самагонкі. Бельскі суд у гэтай галіне пакараннаў займае нясла́ўнае, бо аж трэцяе месца ў краіне“.

Не месца тут разглядаць прычыны, па якіх такая нясла́ўная роля прыпала гэтаму раёну нашага ваяводства. Пакідаю свой намер апісвання боек. Праблема пачынае цікавіць. Сакратарка прыносіць горбу папак з судовымі справамі. Людзі, прозвішчы якіх віднеюць на вокладках судовых папак, сядзяць у турме або былі пакараны іншым спосабам. Бяру першую па чарзе папку.

Рыгор С. нарадзіўся ў Койлах і цяпер жыве на хутары Граматнае Гайнаўскага павету. Працуе на гаспадарцы, якая складаецца з 6—7 га. Бытавыя ўмовы Рыгора С. добрыя. На гаспадарцы працуе ён з жонкаю і сынам. Хварэе.

Рыгору С. ужо 65 год і па правілах мог бы выбрацца на пенсію. Аднак зрабіць гэтага не можа. Яго імя на папцы судовай справы з прыгаворам на два гады турмы і 30 тыс. зл. штрафу за нелегальны гандаль самагонкай. У папцы паведамленне начальніка турмы: „Інфармую, што пакараны С. Рыгор прыняты ў тутэйшую турму 24 лютага 1973 года. Канец: 23 лютага 1975 г.“

Як дайшло да пакарання?

Рыгор С. ужо меў самагоначныя справы: некалькі год таму назад суд пакараў яго за гэта 6 месяцамі турмы і 5 тыс. зл. штрафу. Штраф ён заплаціў, але ў турме не сядзеў. Суд даў прыгавор з адтэрміноўкай. Суддзі лічылі, што старэйшы чалавек мог зблудзіць і такое пакаранне будзе навучкай у такой меры, што ўжо ніколі не возьмецца ён за гэтую нячыстую работу.

Але аднойчы на хутар Граматнае завіталі міліцыянеры з нараўскага пастарунку. Ужо даўно мелі яны інфармацыі, што Рыгор С. займаецца нелегальнай прадукцыяй самагонкі. Заставалася толькі злавіць на гарачым учынку. Хтосьці сказаў міліцыянерам, што нейкі мужчына выбег з Рыгаравай хаты і ўцякае цераз агароды. Міліцыянер дагнаў мужчыну. У яго сумцы было 2 літры самагонкі. Першапачаткова Ст. Ж. не прызнаваўся адкуль мае гэтую гарэлку, наіўна гаворачы міліцыянерам, што яе знайшоў, потым, што купіў у незнаёмага, але ўрэшце прызнаўся, што купіў самагонку ў Рыгора С.

На судзе Ст. Ж. выступіў як сведка. Расказваў суду аб тым, што знаў Рыгора С. і ведаў, што займаецца ён нелегальнай прадукцыяй самагонкі. „Ведаючы, што мушу мець „бімбар“, — гаварыў ён на судзе, — я папрасіў Рыгора С., каб прадаў мне. Спачатку ён не хацеў прадаць, але потым згадзіўся. За літр я плаціў па 60 злотых. Я не ілгу, — чуць не плачучы, гаварыў Ст. Ж., — я гавару праўду. Ад абвінавачанага я жыву ў паўтара кіламетрах“.

Абвінавачаны Рыгор С. сказаў: „Я не прадаваў гэтаму чалавеку гарэлку. Тое, што гаворыць сведка, з'яўляецца хлуснёй“.

Сведка Ст. Ж.: „Чалавеча, чаму ілжэш? Гэта ж я ў цябе купіў гэтую гарэлку!..

Потым Рыгор С. скажа, што закіды, пастаўленыя ў акце пакарання, зразумеў, аднак да віны прызнаецца толькі часткова, гэта значыць, што меў чвэртку самагонкі, а не, як падана, 2,25 літра. Гэтую чвэртку, быццам, выпрадукаваў у мінулым годзе. „Я, — імкнуўся пераканаць суддзяў, — не прадукую „бімбру“ ад таго часу, калі быў пакараны судом. Я нікому гарэлкі не прадаваў. Я не ведаю ніякага Ст. Ж.“

Нашы законы даюць права абвінавачанаму гаварыць няпраўду. Як відаць з вышэй сказанага, Рыгор С. скарыстаў з гэтага права. Гаварыў, як чалавек няпоўнага розуму. Бо хто ж паверыць у такую хлусню, калі ў яго на агародзе злоўлен чалавек з самагонкай, які выходзіў з яго хаты і які пацвердзіў, што купіў гэтую гарэлку ў хаце Рыгора С. і ад яго самога. Рыгор С. патаптаў яшчэ раз сваю годнасць.

Але ці толькі Рыгор С.? А што думаюць пра сябе такія, як сведка Ст. Ж., якія дапамагаюць „бімброўшчыкам“. Іх маральная віна відавочная!

А што было б з Рыгорам С., калі б не прадукцыя і гандаль самагонкай?! Мог бы ён добра гаспадарыць на зямлі, гадаваць карову і свінней, быць нядрэнным гаспадаром. Гэтыя 30 тыс. зл. штрафу і 5 тыс. зл. з папярэдняга штрафу, пры нядрэнных будынках маглі б быць амаль паловай укладу на легкавую машыну сыну. А так, што?

**Аляксей Карпюк**

## ФАЛЬКЛОР

Allegretto

**ЧАРНУШНАЯ***

Ой, і-ду я, ой, і-ду я по-под лу-гом, Там о-рэ

мой мі-лы плу-гом. Там о-рэ мой мі-лы плу-гом.

*Ой, йду я, ой, йду я по-под лугом,*
*Там орэ мой мілы плугом.*
*Там орэ мой мілы плу(гом).*
*А вон орэ, а вон орэ, а я плачу —*
*Молодые ліета трачу.*
*Молодые ліета тра(чу).*
*Понэсу я, понэсу я ёму есті —*
*Чы нэ скажэ вон мне сіесті.*
*Чы нэ скажэ вон мне сіе(сті).*
*Вон наеўсе, вон наеўсе і напіўсе*
*І на ролю поваліўсе.*
*І на ролю поваліў(се).*
*— Чого лежыш, чого лежыш, чом нэ орэш,*
*Чом до мэнэ нэ говорыш?*
*Чом до мэнэ нэ гово(рыш)?*
*— Ой я лежу, ой я лежу і думаю:*
*Нэ по мыслі жонку маю.*
*Нэ по мыслі жонку ма(ю).*
*— Чого іехаў, чого іехаў тэмной ночы?*
*Коб тобіе выліезлі очы!*
*Коб тобіе выліезлі о(чы)!*
*Было іехать, было іехать, світаючы,*
*Добрых людэй пытаючы.*
*Добрых людэй пытаю(чы).*
*Нашы людэ, нашы людэ нэ татары —*
*Праўду усю тобіе сказалі б.*
*Праўду усю тобіе сказа(лі б).*

Ад Анны Стахвіюк, 1924 года нараджэння, вёска Трасцянка Гайнаўскага павету, запісаў 2 жніўня 1973 года Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіла Людміла Панько.

* «Чарнухаю» калісьці ў Трасцянцы называлі час, калі сяляне аралі «ў загон», г. зн. пад пасеў азімага жыта.

## Кансультацыя юрыста

**ПЫТАННЕ:** У часе падзелу спадчыны ў 1969 г. аднаму з удзельнікаў прызнана поўная сплата, разложаная на 10 год. Ці ёсць магчымасць патрабаваць абніжэння гэтай сплаты? Ці закон аб урэгуляванні ўласнасці сельскай гаспадаркі з 1971 г. не прадбачыць змен у гэтым прадмеце?

**АДКАЗ:** Калі ў выніку спадчыны з удзельнікаў прызнаны поўныя сплаты яго ўдзелу — няма магчымасці абніжэння гэтых сплат незалежна ад таго, калі рашэнне суда стала правамоцным. Закон з 26. X. 1971 г. аб урэгуляванні ўласнасці сельскіх гаспадарак нічога ў гэтых адносінах не змяніў. Змену ўвёў закон толькі адносна спраў аб знясенні супольнай уласнасці, пры якой дагэтуль абніжэнне сплат не было прадбачана. Цяпер, калі рашэнне аб прызнанні поўнай сплаты ўдзелу было выдадзена да 4.XI.1971 г., абавязаны да сплаты мае права патрабаваць яе абніжэння. Аднак гэта недапушчальна ў выпадку, калі сплата прызнана асобам, якія ў момант смерці спадкадаўцы пражывалі з ім разам на гаспадарцы або з'яўляюцца трывала няздольнымі да працы.

## Ці ведаеце што...

...найдаўжэйшы мост на свеце даўжынёю ў 14 кіламетраў будзе пабудаваны ў сталіцы Бразіліі — Рыю-дэ-Жанейро. Пад ім без ніякіх перашкод будуць плаваць караблі.

...у нашай краіне дзейнічае зараз 1 800 цэнтраў „Сучасная гаспадыня“. Вядуць яны больш 9 000 пунктаў паслуг.

## Людзі добрай работы

### УЛАДЗІМІР ТКАЧУК

Ураджэнец Грыгораўцаў Уладзімір Ткачук — гэта адзін з найлепшых гаспадароў Бельскага павету. Мае ён усе новыя сельскагаспадарчыя будынкі і адзін з найпрыгажэйшых у вёсцы мураваны дом. Уладзімір Ткачук гаспадарыць на 15 гектарах сярэдняй якасці зямельных угоддзяў. Атрымлівае высокія ўраджаі збожжавых культур: пшаніцы, жыта, аўса і ячменю. Пад збожжавыя культуры і на сенажаці высявае ён у сярэднім каля 300 кілаграмаў NPK у чыстым складзе. Дзяржаве прадае 2000 кілаграмаў пшаніцы „міраноўскай“, 2 500 кілаграмаў жыта і ячменю, а таксама палавіну свайго ўраджаю бульбы, г. зн. каля 15 тон.

Уладзімір Ткачук — прыкладны жывёлавод. Гадуе 40 свіней, 5 дойных кароў і 10 пародзістых цялят. Прадае 10.000 літраў малака ў год. Штогод адразу пасля жніва малоціць збожжа і адзін з першых адвозіць яго на пункт скупкі, не забывае аб падарыўках.

Узорны гаспадар намераны амаль поўнасцю механізаваць работу на полі. Зараз чакае ў чарзе ўласнага трактара. Пакуль што мае некаторыя сельскагаспадарчыя машыны, рэшту паслуг выконваюць сельскагаспадарчыя гурткі.

Перадавы грыгораўскі гаспадар вядзе доследныя палеткі з ячменем, а таксама спецыялізуецца ў свінагадоўлі. Найлепш дапамагаюць яму ў гэтым аграном У. Дмітрук і заатэхнік М. Старчэўскі. Сам Уладзімір Ткачук чытае сельскагаспадарчую прэсу, удзельнічае ў сельскагаспадарчых курсах. Цяпер намераны ён самастойна (добры муляр) пабудаваць новую абору і гадаваць у ёй не менш 50 штук свіней.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

# ОГП у ІМШАРЫ

Падчас летніх канікул на Ваяводскім тарфяным прадпрыемстве „Імшар“ у Імшары за Міхаловам працавалі два добраахвотныя гуфцы працы (ОГП) Саюза сацыялістычнай вясковай моладзі. Членамі гэтага гуфца была моладзь з навакольных вёсак ва ўзросце 16—18 год. Кожная група працавала пад кіраўніцтвам настаўніка па 6 гадзін у дзень. Кожны ўдзельнік ОГП зарабляў у месяц ад 1500 да 2000 злотых. Гэтыя маладыя людзі добра працавалі. Дырэкцыя прадпрыемства ўдзячна ім за выдатную працу і за дысцыпліну. Менавіта таму заканчэнне працы ОГП у Імшары адбылося з асаблівай урачыстасцю. Прадпрыемства арганізавала з гэтай нагоды канцэрт мастацкіх харавых калектываў БГКТ з Дубяжына і Плёсак. Перад канцэртам дырэктар прадпрыемства Кастусь Майсеня ў сваім выступленні накіраваў у адрас ОГП многа цёплых слоў. Пасля канцэрта члены ОГП, а таксама моладзь прадпрыемства і навакольных вёсак танцавала пад музыку інструментальнага калектыву гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку.

У наступным годзе прадпрыемства „Імшар“ плануе арганізаваць працу для вялікай колькасці членаў ОГП, прыблізна для 300 чалавек. Жыць моладзь будзе ў інтэрнатах сярэдніх школ у Міхалове. На работу прывозілі б і адвозілі б іх самаходы прадпрыемства.

Калі ўжо гутарка аб Ваяводскім тарфяным прадпрыемстве, дык варта сказаць і аб тым, што яно рытмічна выконвае планы і ўжо тры гады па чарзе займае першае месца ў краіне.

Цяпер працуе яно над загаспадараваннем тарфяных палеткаў у Рыбінаўцы каля Гарадка і Неджывіцы каля Галдапі.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**



**У Імшары супольна выступалі эстрадная група з Плёсак і хор з Дубяжына.**

 

# О ПАМЯЦІ УЛАДЗІСЛАВА СЫРАКОМЛІ

У 1973 г. спаўняецца 150-ая гадавіна з дня нараджэння і 111-ая ад смерці выдатнага польскага паэта, краязнаўцы і этнографа, сына беларускай зямлі, шчырага і вялікага прыяцеля беларускага запрыгоненага сялянства — Уладзіслава Сыракомлі (Людвіка Кандратовіча).

У сувязі з гэтай гадавінай дарэчы будзе напомніць чытачам „Нівы" хаця б кароценькія звесткі пра жыццё, паэтычную і краязнаўча-этнаграфічную творчасць Лірніка Вясковага, якім Ул. Сыракомля сам сябе называў. Нарадзіўся ён 29 верасня 1823 г. у глухой беларускай вёсцы Смольгава, што на Любаншчыне, дзе яго бацька арандаваў панскую зямлю. Дзіцячыя і юнацкія гады паэт таксама пражыў у беларускай вёсцы Кудзіновічы, цяпер Капыльскага раёна Мінскай вобласці. Адсюль ён ездзіў вучыцца ў Нясвіж, а пасля ў Навагрудак. Але цяжкія матэрыяльныя ўмовы бацькоў змусілі Ул. Сыракомлю спыніць вучобу ў Навагрудскай павятовай школе і пайсці на заробкі.

Амаль усё сваё працавітае жыццё Ул. Сыракомля неразлучна быў звязаны з сялянствам. Ён глыбока і ўсебакова ведаў і шчыра кахаў усім сваім высакародным сэрцам беларускае сялянства і спачуваў яму ў цяжкай долі. Ягоныя дэмакратычныя перакананні і адносіны да падняволенага сялянства яскрава адлюстраваліся ў літаратурнай і этнаграфічнай творчасці.

Ул. Сыракомля паходзіў з абяднелай беларускай шляхты, якая сваёй традыцыйнай народнай культурай зусім не рознілася ад беларускага сялянства. Гэта шляхта добра ведала беларускую мову і ёй карысталася не толькі ў зносінах з беларускім асяроддзем, але і ў сваім сямейным жыцці. Дык і не дзіва, што Ул. Сыракомля добра ведаў беларускую мову, карыстаўся ёй і нават некалькі твораў напісаў па-беларуску. Ён не раз выступаў у абароне беларускай мовы там, дзе царская і польская рэакцыя адмаўляла ёй самастойнасць і роўнасць з іншымі мовамі.

Творчасць Ул. Сыракомлі, а таксама яго дэмакратычныя, братэрскія адносіны да беларускага народу, а перш за ўсё да запрыгоненага нашага сялянства, даюць нам поўнае права лічыць яго не толькі польскім пісьменнікам, але амаль у такой жа меры і беларускім. Такое двухнацыянальнае аблічча Ул. Сыракомлі выявілася ў выніку дакладаў на навуковай сустрэчы польскіх і беларускіх вучоных, прысвечанай 150-ай гадавіне з дня нараджэння Ул. Сыракомлі, якая адбылася 15 і 16 чэрвеня ў Інаўроцлаве і ў Торуні.

Навуковую сустрэчу вучоных арганізавала Галоўнае праўленне таварыства імя Марыі Канапніцкай, якое знаходзіцца ў Варшаве. На сустрэчу былі запрошаны дакладчыкі: з Кракава — праф. др Мечыслава Раманкуўна, з Варшаўскага універсітэта — дац. др Ізабэла Лявановская і з Мінска — Адам Мальдзіс, старшы супрацоўнік Інстытута літаратуры Акадэміі навук БССР, Ул. Мархель, таксама супр. АН БССР, і навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклора АН БССР паэт Кастусь Цвірка.

Першы дзень сустрэчы быў адзначаны вельмі ўрачыста ў перапоўненым удзельнікамі Інаўроцлаўскім тэатры. Трэба падкрэсліць, што інаўрацлаўяне ўвогуле, асабліва Агульнаадукацыйны ліцэй імя М. Канапніцкай прынялі вельмі актыўны ўдзел у арганізаванні сустрэчы і надзвычай цёпла прынялі вучоных з Мінска не толькі ў сябе, у Інаўроцлаве, але масава прыехалі на другі дзень сустрэчы ў Торунь.

Праграма навуковай сустрэчы вучоных, прысвечаная 150-ай гадавіне нараджэння Ул. Сыракомлі, была наступная.

15 чэрвеня ў Інаўроцлаве першы даклад зрабіла праф М. Раманкуўна на тэму „Вытокі натхнення Уладзіслава Сыракомлі".

Другім быў даклад Адама Мальдзіса „Сыракомля ў беларускай літаратуры". Пасля гэтага даклада на сцэну ўвайшоў паэт Кастусь Цвірка і прадэкламаваў свой хвалюючы верш-паэму, прысвечаны Ул. Сыракомлю. Аўдыторыя цёпла прыняла верш на беларускай мове і падзякавала паэту гарачымі і доўгімі апладысментамі, хаця Інаўроцлаў першы раз у сваёй гісторыі гасціў у сябе беларускую мову.

Першы дзень сустрэчы закончыўся экскурсіяй у Крушвіцу, у Музей Я. Каспровіча ў в. Шымбожэ, а вечарам канцэртам у гарадскім тэатры калектыву песні і танца „Куявы".

16 чэрвеня сустрэча была наладжана ў зале сената Універсітэта імя М. Каперніка ў Торуні. Тут былі прачытаны наступныя пяць дакладаў:

1. Праф. М. Раманкуўна — „Думкі сучаснікаў і нашчадкаў пра Ул. Сыракомлю".
2. Адам Мальдзіс — „Сыракомля і беларуская літаратура".
3. Дац. І. Лявановская — „Сардэчнае краязнаўства Ул. Сыракомлі".
4. Ул. Мархель (па-беларуску) — „Сыракомля ў беларускіх перакладах".
5. Паэт К. Цвірка — „Сыракомля як этнограф".

Усе даклады былі апрацаваны на высокім навуковым узроўні, але падрыхтаваны былі ў такой даступнай форме, што лёгка ўспрымаліся слухачамі з рознай адукацыяй і спецыялізацыяй.

На заканчэнне сустрэчы ўдзельнікі агледзелі выдатныя помнікі архітэктуры, культуры і мастацтва, у тым ліку Дом-музей М. Каперніка ў Торуні.

**М. Пецюкевіч**
Торунь


*У першым радзе злева направа сядзяць: Кастусь Цвірка, М. Пецюкевіч, Адам Мальдзіс і Уладзімір Мархель.*

## Куток практычных ведаў




### КУПЛЯ ТЭЛЕВІЗАРА

Надыходзяць доўгія асеннія і зімовыя вечары, у якія селянін нарэшце зможа адпачыць пасля цяжкай летняй працы. Зразумела, што ў сённяшняй вясковай хаце тэлевізар не навіна. А ўсё ж многія яго яшчэ не маюць. На Беласточчыне ў апошні час купляюць тэлевізары ўсё часцей. Дастаткова сказаць, што толькі за адзін перадпаджынкавы тыдзень у Беластоку было куплена каля 300 тэлевізараў.

Вядома, што тэлевізар — гэта пакупка даволі дарагая. Таму, калі мы купляем яго, неабходна прасачыць за яго работай і выбраць такі, які б мог працаваць на працягу многіх год. Тэлевізар трэба праверыць яшчэ ў магазіне, каб выключыць розныя непрыемныя сюрпрызы.

У перадпалуднёвых гадзінах па тэлевізару паказваецца спецыяльная кантрольная табліца, якая складаецца з розных геаметрычных фігур. У сярэдзіне яе знаходзіцца вялікае кола, а ў ім гарызантальныя і вертыкальныя прамавугольнікі, якія бываюць пакрыты лініямі або зацененыя, а таксама пакрытыя лініямі кліны. У вуглах знаходзяцца чатыры меншыя кружкі з дадатковымі „праменнямі". Правяраючы, як працуе тэлевізар, неабходна звярнуць увагу на наступнае:

- Уся паверхня экрана павінна быць раўнамерна асветлена, не павінны выступаць месцы больш цёмныя.
- Гарызантальныя і вертыкальныя лініі кантрольнага вобразу павінны быць паралельныя да адпаведных бакоў скрынкі тэлевізара.
- Усе кругі павінны быць ідэальныя. Калі яны сплюшчаны ці выцягнуты, значыць, вобраз на экране будзе дэфарміраваны.
- Чатыры касыя лініі ў сярэдзіне вялікага кола павінны быць прамыя і вузкія.
- Лініі кліноў не павінны „разбягацца".
- Усе кліны і кругі павінны быць вострыя.
- Вузкія прамавугольнікі ў верхняй і ніжняй частцы вялікага кола павінны быць зусім чорныя. За імі не павінны паяўляцца цені.
- На двух гарызантальных і двух вертыкальных прамавугольніках у сярэдзіне вялікага кола, якія складаюцца з дзевяці квадрацікаў, мы павінны адрозніць прынамсі 6—7 адценняў ад белі да чэрні.
- Трэба таксама праверыць, ці гук тэлевізара чысты, не хрыпіць і ці ўсе рэгулюючыя органы працуюць плынна.

У хаце перш за ўсё неабходна вырашыць, у якім месцы будзе стаяць тэлевізар. Ставіць яго неабходна здалёк ад печы, па магчымасці недалёка ад акна, але і не насупраць яго. Неабходна таксама памятаць, што сярэдзіна экрана павінна знаходзіцца крыху ніжэй вачэй седзячага чалавека, таму столік ці полка не павінны быць занадта высокія. Тэлевізар неабходна паставіць у такім месцы, каб можна было яго глядзець з адлегласці не меншай 2,5—4 метраў.

**Гаспадыня**

---

Д. МАРОЗАЎ

# КРАХ АПЕРАЦЫІ „ЦЫКЛОН"

### РАДЫСТ ПАЗНАЕ ПОЧЫРК

Дзяжурны радыст прыёмнай радыёстанцыі абвера пад Берлінам прыняў вахту па сувязі з групай „Цыклон-Поўдзень" роўна ў поўдзень. Праверыўшы дакладнасць настройкі на дыяпазон, обер-яфрэйтар Тоске начапіў навушнікі і, прыняўшы зручную позу, прытаіўся слухаць. Побач з ім ужо шостую гадзіну нясупынна па ўласнай ініцыятыве дзяжурыў обер-лейтэнант Лібель. Ён выказаў жаданне і тут дапамагаць Мельцару. Вахта пастаяннай сувязі з групай была падобна на рыбную лоўлю ў незнаёмым месцы. Невядома, у які іменна момант клюне. Пакуль што з эфіру даносілася толькі звычайная траскатня і шолах атмасферных разрадаў. Днём перашкод было больш. Тоске для забавы пастараўся ўявіць радыста групы. Расію ён бачыў на малюнках і ў кіно, таму яна ўяўлялася яму доўгім радам шэрых драўляных хат. Радыст „Цыклона" з аўтаматам на плячы павінен быў, напэўна, хавацца ў падвале іменна такога дома. Вось, прыслухоўваючыся да крокаў наверсе, ён уключае сілкаванне рацыі, бярэцца за ключ...

Тоске раптам і на самай справе пачуў тонкае, скажонае дзённымі перашкодамі папіскванне, умоўныя пазыўныя „Цыклона". Ён адкарэкціраваў хвалю і, пачакаўшы выкліку, адказаў тройчы ўмоўнымі сігналамі. Так, гэта быў „Цыклон-Поўдзень". Радыст групы мог бы перадаваць і іншыя сігналы, але дзяжурны на радыёстанцыі Цэнтра ўсё роўна пазнаў бы яго.

У кожнага радыста пры рабоце на ключы ёсць свой „почырк", такі ж пэўны, як і той, якім чалавек піша на паперы. Усіх сваіх кліентаў, што заселі дзесьці ў рускім тыле, Тоске выдатна пазнаваў па почырку, так, гэта, безумоўна, „Цыклон-Поўдзень".

— „Цыклон-Поўдзень" выклікае, — сказаў обер-яфрэйтар Лібелю. — Падрыхтуйцеся запісваць.

— „Цыклон-Поўдзень", — сказаў радыст, — просіць пацвердзіць змяненні ў плане аперацыі. Ці трэба перадаваць камандаванне прыбыўшаму замест камандзіра. Выйду на сувязь праз 15 мінут. „Я „Цыклон-Поўдзень". — Зняўшы навушнікі, Тоске паглядзеў на Лібеля. — Вы ўсё зразумелі?

— Так! — адказаў Лібель. Ён узяў бланк з запісам і пакрочыў па калідоры.

У суседнім з апаратнай кабінеце за вялікага стала сядзеў, аб чымсьці размаўляючы з афіцэрам радыёстанцыі, падпалкоўнік Мельцар. Лібель падышоў да падпалкоўніка.

— Ну, нарэшце, „Цыклон-Поўдзень" адказвае. Вось радыёграма.

— Што там? — запытаў Мельцар.

Лібель прачытаў так, як ён запісаў, слова ў слова. „Цыклон" просіць пацвердзіць змяненне плана аперацыі, ці трэба перадаць камандаванне прыбыўшаму".

— Дайце радыёграму, — Мельцар два разы прачытаў бланк расшыфроўкі. — Што гэта азначае? Ці ж яму раней не было дадзена распараджэння? Якія змяненні? — Мельцар са здзіўленнем перавярнуў бланк і паглядзеў на яго з адваротнага боку.

— Я, здаецца, здагадваюся, пан падпалкоўнік, — загаварыў Лібель. — Мне Шварцбрук гаварыў яшчэ па дарозе сюды, што яны не вельмі ладзілі ў свой час з лейтэнантам Кругерам. Відаць, Кругер сумняваецца ў яго паўнамоцтвах. Акрамя таго, лейтэнант, напэўна, мае на ўвазе час пачатку аперацыі. Ён чамусьці не згодны пачынаць раней на суткі. Напэўна, не паспеў падрыхтавацца.

— Ах, вось яно што. Каб іх чорт узяў. Знайшлі час і месца для высвятлення адносін. І гэта хваленыя франтавыя разведчыкі! З нашымі такога не бывае. Лібель, запішыце тэкст радыёграмы ў адказ.

„Усе паўнамоцтвы пераходзяць прыбыўшаму камандзіру групы. Аперацыю пачаць неадкладна. Далажыць аб выкананні". Акрамя таго, спытайце ў іх, калі яны змогуць далажыць аб пачатку аперацыі.

Лібель хутка запісваў.

— Вы, напэўна, страшэнна стаміліся, обер-лейтэнант, — сказаў Мельцар. — Здайце радыёграму і можаце ехаць адпачываць. Вы за мінулыя суткі як след папрацавалі.

— Я хацеў бы застацца тут, з вамі, пан падпалкоўнік.

„Хлопец яўна хоча ўзяць рэванш", — падумаў Мельцар.

— Ну, добра, обер-лейтэнант, можаце застацца. Што гэта вы носіце пісталет у бакавой кішэні?

— Я паклаў яго туды яшчэ днём, у час пошукаў Шварцбрука, ды так і забыўся.

**(Працяг будзе)**



 

# ДЭФІЦЫТНЫ ШПРЫЦ

Зазваніў тэлефон. Я хуценька паклаў кніжку, якую чытаў, і зняў трубку.

— Магазін медінструментаў? — пачуўся патрабавальны голас.

— Не, — адказаў і паклаў трубку.

Праз паўхвіліны зноў званок і той патрабавальны тон:

— Магазін медінструментаў?

Я паўтарыў сваё „не“ і зноў паклаў трубку.

Трэці званок. Той жа голас, толькі лагодны, сяброўскі:

— Не кладзіце трубку, я зараз усё растлумачу...

— Ну гаварыце, карацей толькі...

— Я ведаю, што гэта магазін медінструментаў, толькі не кладзіце трубку... — чалавек гаварыў усхвалявана, — вы атрымалі шпрыцы... Мне на базе падказалі. А з кім я размаўляю? З дырэктарам?

— Дырэктара няма і не будзе да заўтра, — чамусьці адказаў я.

— А з кім я размаўляю? — вельмі ж лагодна пытаўся чалавек. — Можа б і з вамі я дамовіўся... Мне трэба ўсяго пяць шпрыцаў... А кім вы працуеце?

— Я — вартаўнік магазіна, — сказаў я тое, што першае прыйшло ў галаву.

— Шкада, — пачуўся расчараваны голас. — А мне так хацелася дастаць пяток шпрыцоў... Заўтра іх можа не быць.

— Не бядуйце, што няма дырэктара. Часам вартаўнік можа болей зрабіць, чым сам дырэктар.

— Дык вы можаце мне ўдружыць? Я ў даўгу не застануся. Вы нават не ўяўляеце, якую вялікую паслугу зробіце.

— Тады прыязджайце да магазіна, — падказаў я.

— Зараз, а дзе мы сустрэнемся? Як я вас пазнаю?

Тут я канчаткова ўвайшоў у ролю і сказаў:

— У пяць гадзін чакайце мяне каля магазіна. А каб я вас пазнаў, адну газету трымайце ў руцэ згорнутай, а другую разгарніце і зрабіце выгляд, што чытаеце. Я вас пазнаю.

— Лячу! — страсянуў мембрану радасны голас.

Я апрануўся і пайшоў у магазін медінструментаў.

— У вас шпрыцы ёсць? — пытаюся.

— Ёсць.

Я выйшаў з магазіна, сеў на лавачку і пачаў чытаць кніжку.

Неўзабаве я ўбачыў невысокага чалавека, які спыніўся ля магазіна. У адной руцэ ён трымаў згорнутую газету, як мы і дамовіліся, а другую нібыта чытаў. І ўвесь час азіраўся.

Чалавек цэлую гадзіну нервова тантаўся на месцы. Але ў магазін не зайшоў, не пацікавіўся, ці ёсць у продажы шпрыцы. Ён чакаў вартаўніка. Мне, нарэшце, стала шкада яго і я прапанаваў яму зайсці ў магазін і купіць шпрыцы. Праз некалькі хвілін ён выйшаў адтуль вельмі задаволены.

**Змітро Бяспалы**



*Цяпер добра відаць?*






*Калі на аўтастоп надзеі страчаны.*

### КАЛІ ЗАЎВАЖЫЎ?

— Мэры, я згубіў свой парасон.

— А калі ты гэта заўважыў?

— Калі хацеў яго закрыць.

### ГАВАРЫЎ

Рабочы ўрываецца ў кантору прараба:

— Ой, бяда! Дом, які мы рамантуем, вось-вось абваліцца.

— Гаварыў вам, няшчасныя, не здымайце рыштаванняў, пакуль не абклеіце пакоі шпалерамі.

## МІНІВЕРШЫ

### „ВЕТЛІВЫ“ ПАСАЖЫР

Учынак добры ён зрабіў:
Бабульцы месца уступіў,
Ды ўстаў з яго толькі таму,
Што выйсці час прыйшоў яму.

**Мікола Вяршынін**

### ПАЦЫЕНТ

— Доктар, у мяне сіняк!
Класці лёд на лоб ці грэлку?
— Атрымалі яго як?
— Ад лятаючай талеркі:
Як зайшоў да жонкі ў хату
І не ўсю аддаў зарплату.

**Пятро Сідараў**

## МІНІБАЙКІ

### ЖАНОЧАЯ ЛОГІКА

Піла выгадна ўладкавалася на сучку і пачала яго пілаваць. Сук скрыпеў, скрыпеў і зваліўся.

А піла павісла ў паветры. Пілаваць няма каго.

Раскажыце гэту байку сваёй жонцы. Навошта яна пілуе сук, на якім сядзіць.

### АБ ГУСТАХ НЕ СПРАЧАЮЦЦА

— Ух, і паскудная была ў мяне Зайчыха, — сказаў Заяц.

— А, па-мойму, нічога, — засупярэчыў Воўк, — далікатная і прыемная.

Аб густах не спрачаюцца.

**М. Азаў, У. Цхвінскі**

*Світэр будзе непрамакаемы!*



**...Яго так любілі, што ахвотна разарвалі б на сувеніры.**

**...Ён змагаўся: колькі добрых звычак не набываў, паганых заўсёды было на адну больш.**

### АХВЯРА ФУТБОЛА

— Так, мой муж ляжыць хворы, ахвяра футбола.

— Я і не ведаў, што нават ён гуляе у футбол.

— Ён-такі і не гуляе. Ён расцягнуў галасавыя звязкі на матчы ў суботу.

*ЧАГО Ў СПОРЦЕ НЕ БЫВАЕ!*



*— Усміхніцеся, калі ласка!*

### НЕ РАЗГУБІЎСЯ

На ўроку геаграфіі настаўнік расказвае пра кліматычныя ўмовы Англіі і тлумачыць, што ў Лондане часта бываюць густыя туманы. Наступным разам ён выклікае вучня і кажа, каб той паказаў на карце Лондан.

Вучань доўга разглядае карту, але Лондана не знаходзіць.

— Ты яшчэ доўга будзеш шукаць? — пытае яго настаўнік.

— Ды зараз Лондан якраз у тумане, таму і не бачу яго, — адказвае вучань.

### ШТО ДА ЧАГО?

— Што вам лекар прыпісаў?

— Ды нейкае там спіртнае націранне...

— Ну і як, памагае?

— Дзе там... Толькі ў горле дзярэ.

### ПЕРАХІТРЫЎ

Чалавек з берага звярнуўся да адзінокага рыбака:

— Ёсць што-небудзь? — запытаў ён.

— Што-небудзь ды ёсць! — быў адказ. — Учора, напрыклад, я злавіў тут сорак шчупакоў.

— А вы ведаеце, хто я?

— Не, — адказаў рыбак.

— Я адказны па барацьбе з браканьерамі і гэта мой участак.

— А вы ведаеце, хто я?

— Не...

— Я найвялікшы лгун ва ўсёй Віргініі.




### ЯК СВЯТЫ ЮРКА МУЖЫКУ ПАМОГ

Аднойчы ўехаў мужык у балота. Што ён напрацаваўся — ніяк не мог выехаць. Урэшце пачаў заклікаць святых на дапамогу. Заклікае і паганяе коней: ніц не памагае. Урэшце кажа:

— Святая Дарота, выцягні мяне з балота!

Ніц не памагае. Тады як крыкне:

— Святы Юры, выцягні мяне з гэтай баюры! — Ды бізуном па конях — і выехаў. Ды й кажа:

— Вось штосьці хлапец, а не то што баба.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Олі Васілюк і Анны Бандарук з Чэхаў Арлянскіх змяшчаем песню з рэпертуару „Філіпінак“.

## WESELMY SIĘ

Weselmy się, radujmy się,
Jasiek z Kaśką ożenił się.
Sąsiedzi się we wsi cieszą,
na wesele wszyscy spieszą.

Hej nam hej! Hej nam hej! Hej nam hej!

Poustawiali się wszyscy
i wzięli się do muzyki.
Zaczynają grać wesoło,
pląsając po izbie wkoło.

Hej nam hej! Hej nam hej! Hej nam hej!

Wilcze dudy, Walek chudy
i dmuchawy jak organki.
A ten stary gra bez miary,
Skrzypce stroi, ledwie stoi,
ledwie stoi.

Maciek dzierżąc w ręku prosię,
Przygrywa na krzywonosie.
A ten grajek szałamajek
na pianirze żyśko gmyrze,
żyśko gmyrze.

Kątrearty i tenory
podzielili na dwa chory.
Potem każdy rozwydrzony
wrócił niedoznawszy szkody,
żadnej szkody.

A kto nie był na weselu,
ten nie śpiewał z nami „Chmielu".
Weselmy się, radujmy się,
Jasiek z Kaśką ożenił się!

Hej nam hej! Hej nam hej! Hej nam hej!



*Трактар са стапрацэнтнай эканоміяй гаручага.*




### І ПАД ВАДОЙ ТАКСАМА

Уладальнікі курорта на грэчаскай выспе Хіас прыдумалі ўдачна рэкламны трук — у кожным выпадку, гэтак здавалася ініцыятарам дадзенага пачынання. Для аматараў падводнага плавання, якія кожны год прыбываюць на выспу, каб апусціцца ў тутэйшыя чыстыя воды, курорт хацеў трансліраваць музыку. Спецыяльныя рэпрадуктары, апушчаныя на глыбіню, павінны былі даваць асалоду слыху падводнікаў чуллівымі мелодыямі. Аднак, на здзіўленне ініцыятараў, ідэя была сустрэта ў штыкі. „Мы шукаем прыстанішча, дзе б можна было адпачыць ад шуму, — пісала група аматараў падводнага плавання. — Для гэтага мы імкнемся ў свет цішыні. Цяпер, што ж, цішыні прыйшоў канец?!“ Адрэагіравала і таварыства аховы жывёлін. „Дагэтуль, — абураўся яго прэзідэнт, — рыбам пагражала небяспека ў выніку забруджання прыбярэжных вод. А цяпер вы хочаце ператварыць рыбы ў неўрастэнікаў дурнаватымі моднымі песенькамі!“ Уладальнікі курорта вырашылі пакуль пачакаць з рэпрадуктарамі...

### ВОСЬ ДЫК СЯМ'Я

Бразільцу Раймунду Карнаубу цяпер 58 гадоў, яго жонцы — Жазімар — 54. У іх 38 дзяцей: 24 дочкі і 14 сыноў. Бацька прызнаецца, што ён не ўсіх памятае па імя. Затое, маці ведае не толькі як каго завуць, але і хто за кім нарадзіўся. Самаму старэйшаму з іх споўнілася 38 гадоў, а самай маленькай дзяўчынцы — тры месяцы.

Калі ў Раймунда спыталі, ці задаволены ён такой колькасцю дзяцей, ён сказаў: „Калі іх будзе яшчэ больш, а я спадзяюся на гэта, я буду толькі рады. Мы з жонкай вельмі любім дзяцей“.




*Людзям усё яшчэ даводзіцца ахоўваць прыроду ад чалавека.*